# СТУДЭНЦКАЯ




# ДУМКА



грамадска-палітычны
ды культуралагічны
часопіс студэнцкага патрыятычнага
згуртаваньня «Сьвітанак»

№ 2 1989 студзень~люты 1989 год II

Яшчэ нам Воля агняцьветам
Над Беларусьсю расьцьв1це
1 сьветазарным сва1м сьветам
Далека злыдняў адмяце.

Браты! Да працы, да яднаньня,
Сваей працоўнаю рукой
Мы пераможам у змаганьн1.
Хутчэй да працы грамадой!

Хутчэй да працы, каб к1пела.
Пагоня нам пакажа шлях.
Яшчэ ўзаўецца горда-сьмела
Над бел-чырвона-белы сьцяг.

А.Б.

# ДЗЕ Ж ВЫЙСЬЦЕ?

Н1 для каго не сакрэт, што за апошн1я дзесяц1годдз1 ў нашай рэспубл1цы сфармавалася вельм1 складанае моўнае станов1шча. У рэспубл1цы, дзе амаль 80% насельн1цтва складаюць беларусы, амаль немагчыма пачуць беларускае мовы / кал1 не л1чыць "трасянк1", якой карыстаецца бальшасьць вяскоўцаў/.

Шматл1к1м нашым гасьцям зь 1ншых нацыянальных рэспубл1к





— Ну прызнайся хаця б ты, што ёсьць на БеларусІ беларусы ?

гэта здаецца дзікім. Узгадваю размову з адным літоўцам, які ўпершыню трапіў у Менск. "Збіраўся ехаць да вас, спэцыяльна вывучыў некалькі словаў па-беларуску: "дзякуй", "калі ласка", "добры дзень" і іншыя. А прыехаў – і ніводнае з гэтых словаў не спатрэбілася".

Безумоўна, далей так працягвацца ня можа. Апошнім часам у значнай часткі беларусаў пачала прачынацца нацыянальная сьвядомасьць. 5 студзеня падчас прамога эфіру ў перадачы Беларускага тэлебачаньня "Крок" мы пачулі, нарэшце, беларускія словы з вуснаў і афіцыйных асобаў.

Есьць станоўчыя зрухі і ў нашым інстытуце. Так, у сьнежні месяцы ўва ўсіх вучэбных карпусах і інтэрнатах зьявіліся аб"явы пра стварэньне ў інстытуце курсаў беларускае мовы і пра арганізацыю асобных плыняў для студэнтаў, якія жадаюць слухаць лекцыі на беларускай мове. І зноў дзейнічае "мэханізм тармажэньня" – на гэты раз сярод студэнтаў. Да 30 сьнежня на курсы беларускай мовы запісалася каля 18 выкладчыкаў і супрацоўнікаў інстытута і ўсяго 15 /!/ студэнтаў. Дзе ж вы, беларусы?

У мяне няма інфармацыі, як справы зь беларускімі плынямі, але скажу, што мае асабістыя намаганьні стварыць нешта на маім курсе былі на словах сустрэтыя ў пэўнай часткі студэнтаў з

разуменьнем, але калі справа даходзіла да таго, каб падаць заяву на такую плынь, адразу зьяўляліся аргументы супраць. І нельга сказаць, што людзі ня мелі рацыі. Адсутнасьць падручнікаў на роднай мове, нераспрацаванасьць навуковае і асабліва тэхнічнае тэрміналёгіі, непадрыхтаванасьць выкладчыка выкладаць, а студэнта ўспрымаць веды па-беларуску, нарэшце, панаваньне састарэлых стэрэатыпаў ў сьвядомасьці людзей - вось галоўныя прычыны, якія тармозяць справу беларусізацыі інстытута.

Зараз моўнае становішча на Беларусі ўвогуле, і ў сістэме адукацыі ў прыватнасьці нагадвае зачараванае кола. Выпускнікі беларускамоўных школаў, паступаючы ў ВНУ, вымушаныя перабудоўваць свае мысьленьне на расейскі лад, яны складаюць вельмі малую частку ад агульнай колькасьці тых, хто паступае ў ВНУ, дзе навучаньне вядзецца толькі па-расейску.

Ведаючы, які лес чакае дзяцей пасьля заканчэньня беларускай школы, бацькі ня хочуць аддаваць іх туды, чым пазбаўляюць ВНУ беларускамоўнага кантынгенту. Дзе ж вынсьце з гэтага недарэчнага становішча? Зьнішчыць апошнія беларускія школы, зусім анямішь беларускі народ і адным махам "пазбавіцца ўсіх праблемаў"? Сьвядомы беларус нікалі з гэтым не згадзіцца. Кінуцца ў другую крайнасьць і пачаць прымусовую беларусізацыю, нямаючы ніякай базы і ня ўлічваючы нічыіх меркаваньняў? Гэты шлях таксама непрыймальны. Працэс беларусізацыі больш складаны і нашмат даўжэйшы, чым многім з нас хацелася б.

На маю думку, трэба забясьпечыць патэнцыяльную магчымасьць стварэньня беларускамоўных плыняў на кожным курсе і на кожнай спэцыяльнасьці. Нават калі тры-чатыры чалавекі пажадаюць вучыцца па-беларуску - забяспечыць ім такую магчымасьць. Ну й, натуральна, асноўную працу праводзіць сярод абітурыентаў. Калі чалавек падае дакумэнты ў прыемную камісію, абавязкова пытацца ў яго, на якой мове ён жадае вучыцца. І тады выпускнік беларускай школы пойдзе на беларускую плынь. Тады створацца ўмовы і для стварэньня беларускіх школаў, таму што бацькі ўбачаць, што і ў выпускнікоў беларускамоўных школаў есьць пэрспэктывы, што ім ня трэба будзе перавучвацца. Такім чынам паступова мы выйдзем з зачараванага кола. Ну і, безумоўна, нельга забывацца і на астатнія сферы жыцьця, а пасьлядоўна праводзіць моўную палітыку і там.

Швайбовіч Г.
студэнт 4 курса ХТІТ

## ПРАЕКТ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА ТЭХНАЛАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА

Першачарговыя задачы на бліжэйшы сэмэстр:

1. Зьмяніць надпісы на дзьвярох аудыторыяў, габінэтаў, лябараторыяў і г.д. з расейскай мовы на беларускую. Найперш гэта датычыць новага корпуса, дзе няма яшчэ аніякіх надпісаў. Паступова замяніць насьценную агітацыю на беларускамоўны варыянт.
2. Перавесьці інстытуцкую шматтыражку "Технолог" цалкам на беларускую мову альбо даць афіцыйны дазвол на зьмяшчэньне матар"ялаў як у рускай, гэтак і ў беларускай мовах, на ўзор існуючых шматмоўных газэтаў "За перадавую навуку", "Голас Радзімы", "Савецкі настаўнік" і г.д. Разгледзець магчымасьць зьмяшчэньня матар"ялаў на ўкраінскай, яўрэйскай і іншых мовах для задавальненьня культурных запатрабаваньняў буйных нацыянальных групаў, якія вучацца ў інстытуце.

   У мэтах захаваньня "Технолога" як газэты /сеньня практычна няма жадаючых падпісвацца на яго/ лічым мэтазгодным практыкаваць мэтавую і гуртавую падрыхтоўку нумароў, гэта знача даць магчымасьць рыхтаваць тэматычныя выпускі факультэтам, грамадскім арганізацыям: акрамя парткаму, камсамолу й прафкаму яшчэ і Дружыне аховы прыроды, згуртаваньню "Сьвітанак", дыскусійнаму клубу імя Францішка Скарыны, інстытуцкім групам падтрымкі Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", турыстычнаму клубу, аб"яднаньням мастацкай самадзейнасьці, асобным катэдрам і г.д.
3. Выконваючы 7-ы пункт пастановы Навуковай рады інстытута ад 2-га сьнежня 1987 г., "забясьпечыць нязьменны й актыўны ўдзел факультэтаў і катэдраў інстытута у фармаваньні фонду бібліятэкі, зьвяртая асаблівую ўвагу на навуковую, спэцыяльную й мастацкую літаратуру, што выдаецца на беларускай ды расейскай мовах", правесьці перавыданьне тэрміналягічных слоўнікаў /аб"емам яны ня больш за 30 кніжных аркушоў/ 20-30 гадоў на паліграфічнай базе Інстытута, зважаючы на тое, што гэта фактычна адзіная крыніца, зь якой магліва узяць тэрміны па большасьці прадметаў.
4. Распачаць выданьне мэтадычных дапаможнікаў інстытутам паралельна на беларускай ды расейскай мовах. Забясьпечваць мэтадычныя дапаможнікі сьцісламі тэрміналягічнымі слоўнікамі расейска-беларускімі й беларуска-расейскімі ў адпаведнасьці з мовай выданьня. Шырэй выкарыстоўваць грамадскую ініцыятыву, далучаць да перакладаў студэнтаў, асьпірантаў, выкладчыкаў, што валодваюць мовай.

5. Для ус1х выкладчыкаў неадкладна ўвесьц1 абавязковыя паўгадавыя курсы з 1спытам па вывучэньн1 беларускае мовы.

Сярод студэнтаў весьц1 шырокую аг1тацыю за наведваньне падобных курсаў, наведваньне мус1ць быць дабраахвотным, 1спыты адсутн1чаюць.

6. Пачынаючы з верасьня 1989 г. ўвесьц1 на першым курсе па ўс1х спецыяльнасьцях факультатыўны прадмет "Беларуская мова й л1таратура", адпаведна на друг1м 1 трэц1м – "Г1сторыя Беларус1 з даўн1х часоў" 1 "Г1сторыя культуры Беларус1".
7. Стварыць на першых курсах ус1х факультэтаў пэрспэктыўныя групы зь л1ку выпускн1коў беларускамоўных школаў 1 ўс1х жадаючых, у як1х выкладаньне будзе весьц1ся па магч1васьц1 на беларускай мове. З 1990 года забясьпечыць поўны пераход гэтых групаў на беларускую мову навучаньня. Выпускн1кам беларускамоўных групаў гарантаваць разьмеркаваньне на працу на тэрыторы1 Беларус1.
8. На ўс1х курсах зь пераважнай большасьцю студэнтаў, як1я разумеюць беларускую мову /70% ды болей/ пачаць выкладаць па-беларуску грамадзнаучыя /у першую чаргу/ 1 спэцыяльныя прадметы, па як1х есьць выкладчык1 ужо сеньня.
9. Распрацаваць 1 ўнесьц1 ў навучальныя планы на ўс1х спэцыяльнасьцях курс па г1сторы1 разьв1цьця на Беларус1 адпаведнай гаспадарчай дзейнасьц1. Напрыклад, студэнт спэцыяльнасьц1 "Лясная гаспадарка" мэтазгодна чытаць курс лекцыяў /з абавязковым зал1кам/ "Г1строрыя лясной гаспадарк1 Беларус1".
10. Завершыць перавод працэсу адукацы1 ў 1нстытуце па двухплыннай с1стэме ў адпаведнасьц1 з нацыянальным складам студэнтаў 1 аб1турыентаў да верасьня 1991 года.

# Інстытут альбо "Ликбез"?

Перабудова, якая працягваецца ужо чацьверты год, на маю думку, перш за ўсе павінна была закрануць сістэму адукацы1 кра1ны. Абгрунтую гэта вытрымкай з даклада спэцыяльнай кам1с11 К1раваньня па навуцы 1 тэхн1цы ЗША 1 нацыянальнага навуковага фонду ЗША прэзідэнту кра1ны у 1963 годзе: "... Дабрабыт нацы1 1 абароназдольнасьць кра1ны зараз вызначаюцца зус1м не сырав1най, м1нэральным1 рэсурсам1 1 нават не кап1талам1. Вырашальнай крын1цай эканам1чнага росту ўсе больш ды больш робяцца веды, а таксама 1ндыв1дуальная ды грамадская здольнасьць 1х выкарыстаньня. Носьб1ты 1 генэратары новых ведаў – вучоныя, канструктары, 1нжынэры, лекары, настаўн1к1 ды 1ншыя спэцыял1сты. Таму цэнтр ваг1 ў пал1тычным, ваенным ды эканам1чным супрацьстаяньн1 ўсе больш ды больш сх1ляецца ў сфэру вышэйшае адукацы1. Кра1на, якая

не валодае сістэмай адукацыі, здольнай падрыхтаваць кадры вышэйшае кваліфікацыі, непазьбежна адстане ў тэхніцы і ў тэхналёгіі. У палітычным спаборніцтве яна ня мае шанцаў на посьпех..."

З таго факту, як у рэспубліцы ставяцца да інтэлігенцыі ўвогуле, вынікаюць пачварныя зьявы ў нашым грамадстве, якія часам нагадваюць 30-ня гады. Узгадайма восеньскую кампанію цкаваньня творчае інтэлігенцыі ў рэспубліканскім друку, а таксама драматычныя падзеі 30 кастрычніка. Ад пераасэнсоукі ролі інтэлегенцыі ў грамадстве цяпер залежыць посьпех перабудовы, яе незваротнасьць. Нарэшце трэба прызнаць, што інтэлігенцкі належыць дамінуючая роля ў грамадстве, інакш краіна гэтак і застанецца вялікай у ваенным спаборніцтве і разьвіцьцёвай у адносінах да жыцьця простых людзей. Больш за 30 гадоў гэтая канцэпцыя ляжыць у аснове палітыкі ЗША ў галіне падрыхтоўкі кадраў, і ў выніку гэтая краіна дабілася вялікіх посьпехаў у палепшаньні дабрабыту людзей.

Мы з Вамі, шаноўныя чытачы, добра ведаем наш навучальны працэс, ведаем, які ён дае плён. Зьвярну Вашую ўвагу на самыя пачварныя яго бакі. Перш за ўсе гэта, відаць, забарона карыстацца канспэктам альбо падручнікам пад час іспыту. Гэта прымушае студэнта, тоячыся як паляунічы на ловах, сьпісваць. А гэта, безумоўна, гвалт над уласным сумленьнем. Ужо са студэнцкай лавы закладвецца падмурак масавых прыпісак ды парушэньняу. Ці ведаеш, шаноуны чытач, што студэнты завочных факультэтау амаль усе кіраўнікі вытворчасьці, да таго ж многія - камуністы. Гэты падман - заканамерны вынік нашае сістэмы адукацыі, што створаны ў перыяд сталінізму. Яе галоуная мэта - зрабіць з чалавека добрага выканаўцу загадаў начальніка. Пэўне, выконваць загад можа кожны, а вось імкнуцца да ўкараненьня найноўшае тэхналёгіі, да творчага мысьленьня - гэта не. Дзеля гэтага і існуе вышэйшая школа. Трэба, каб кожны з нас задумаўся, што ён будзе рабіць на сваім працоуным мейсцы, што ён здолее зрабіць дзеля палепшаньня жыцьця працоунага чалавека. Бо тыя 5 год, якія мы вучымся, ен гне сьпіну як на цябе, гэтак і на мяне. А пакуль атрымліваецца, што і ен не жыве, і мы жабракуем на свае 120 рублеў. Рэасумуючы ўсе вышэйпададзенае, хачу прапанаваць Вашай увазе свае думкі /ці лепей прапановы/ наконт перабудовы сістэмы адукацыі ў нашым інстытуце. Лічу, што гэтыя прапановы могуць стаць рэальнай добрай справай для шматлікіх групаў падтрымкі Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", утвораных апошнім часам у нашым інстытуце.

П Р А П А Н О В Ы:

1/ Перагледзець лекцыйную сістэму, пры якой студэнты запісваюць лекцыі на працягу 3-4-х месяцаў, а потым вывучаюць іх на працягу 3-4-х дзён. Выданьне друкаваных канспэктаў лекцыяў лепшых выкладчыкаў

2/ Зьмяніць шкалу ацэнкі ведаў студэнтаў зь 5-цібальнае на шматбальную;

3/ Перагледзець сістэму іспытаў, пры якой галоўнае адказ на пытаньні па білетах, пры якой студэнт можа быць заменены магнітафонам, што вядзе да выхаваньня дагматыкаў й дэмагогаў. Увесьці на іспытах сістэму мабілізацыі творчай думкі студэнта;

4/ Прадугледзець магчымасьць дыфэрэнцыяванага забесьпячэньня стыпэндыяй студэнтаў у залежнасьці ад колькасьці набраных балаў і незалежна ад кожнай асобнай адзнакі;

5/ Практыкаваць стварэньне экспэрыментальных навучальных групаў, дзе будзе ісьці адпрацоўка розных сістэмаў адукацыі;

6/ Пасылаць лепшых студэнтаў за мяжу ў найбольш прэстыжныя ВНУ сьвету;

7/ камп"ютарызаваць інстытут, перагледзець вучэбныя пляны, якія прымушаюць студэнтаў перапісваць стосы паперы.

Студэнт 5-га курса ТАР/тэхналёгія арганічных рэчываў/
Аляксей Трусаў

# КРОНІКА; КРОНІКА; КРОНІКА

* * *

Як і летась, калядавалі супольна "Сьвітанкам", "Агмянём" ды мастацкай школай імя Ахрэмчыка, але да таго ж чынна ўдзел узялі сябры аб"яднаньня "Крывіч", што з пэдінстытуту. Сябраваньне суполькамі робіцца папулярным, гэта, відаць, найперш вынік таго, што ў розных студэнцкіх аб"яднаньнях гуртуюцца альбо пераважна хлопцы, альбо дзяўчаты. Нам нават уяўляецца, што ў гэткіх супольных імпрэзах закладаецца падмурак будучага АБ"ЯДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ.

Відавочны значны прагрэс у мастацкім аздабленьні сьвята, але сьпеўная частка ўсё ж жадае чакаць лепшага.

Калядавалі па кватэрах мастакоў на Сурганава, спатыкалі, як і заўсёды, шчырую прыхільнасьць гаспадароў, пра што яскрава сьведчыць багаты частунак /ажно тры вялізныя мяхі "з-пад бульбы"/.

Аб 11 гадзіне гурт з 30 калядоўшчыкаў разьмясьціўся на прыватнай кватэры, ласкава прапанаванай спадаром са "Сьвітанку" Алесям Гурковым. Новы год сустрэлі, сьпяваючы "Пагоню" Максіма Багдановіча. Дума пра лёс Роднае Беларусі працяла нават тых, хто трапіў на сьвята выпадкова.

Сьпевы ды скокі доўжыліся ўсю ноч.

* * *

Сябру "Сьвітанку" Георгію Швайбовічу за выдатную вучобу зноў прызначаная стыпэндыя Навуковае Рады інстытута. Праўда, сёлета не абышлося без эксцэсаў. На кастрычніцкім паседжаньні Навуковае Рады інстытута пры абмеркаваньні кандытатураў, вылучаных на атрыманьне ленінскіх стыпэндыяў і стыпэндыяў Рады інстытута /заўважым, што Г.Швайбовіча высунулі ажно чатыры навуковыя катэдры/ падняўся былы сакратар парткама інстытута і прамовіў: "Партком мае думку, што Швайбовічу ня варта прызначаць гэтае стыпэндыі". Навуковая рада прагаласавала за гэта "надзіва" аднагалосна.

Але дзякуючы прынцыповасьці выкладчыка катэдры Навуковага камунізму Дзядзюлі, які сустрэўся з рэктарам інстытута, пытаньне было вырашана. На адным з чарговых паседжаньняў Навуковае Рады рэктар заявіў: "Рэктарат ня мае нічога супраць прызначэньня Швайбовічу стэпэндыі Рады інстытута".

Так, пытаньне, здаецца, вырашана, але засталося прыкрае адчуваньне. Дзе гарантыя, што й далей ня будзе падобных эксцэсаў?

* * *

Пры канцы сьнежня адбылося першае паседжаньне дыскусійна-палітычнага клюба імя Францішка Скарыны на тэмат: "Савецкія гісторыкі пра ўтварэньне БССР і КПБ".

Заплюшчваючы вочы на пэўныя адмоўныя ўражаньні, трэба усё ж з прыемнасьцю канстатаваць актывізацыю выкладчыкаў, добрую тэхнічную падрыхтаванасьць паседжаньня. Яно ішло ў зале Навуковай Рады інстытута, на сталох былі багата прадстаўленыя танізавальныя напоі розных гатункаў. Вялікі дзякуй за гэта арганізатарам!

Хацелася б пажадаць надалей клюбу прытрымлівацца большага дэмакратызму ў спрэчках /маем на ўвазе адмаўленьне ад недарэчных прэзідыўмаў, якія часам манапалізуюць усю размову/. Калі ужо запрашаем якога спэцыяліста з боку, дык трэба найперш весьці гаворку зь ім. Усе астатнія, нават і выкладчыкі грамадазнаўчых катэдраў, маюць роўныя правы на выказваньне, і ніхто ня мае права браць на сябе ролю судзьдзі.

Цяпер колькі словаў пра самую гутарку. Здаецца дзіўным, што нашыя выкладчыкі гэтак моцна трымаюцца за цалкам састарэлыя пастуляты. Згадаем для прыкладу артыкул шаноўнага Г.Марцуля "Провозглашение БССР: как это было" у "Технологе", які быў надрукаваны напярэдадні паседжаньня. Галоўныя тэзы яго зацята абараняў на паседжаньні клюба тав. Малашка. Цытуем: "Среди буржуазных нацио<u>нал</u>истических организаций ведущую роль играла Белорусская социалистическая громада

/БСГ/, возникшая в 1903 году".

З прычыны абмежаванасьці месца ў часопісе мы не ставім за мэту разгляд праграмы БСГ, характарыстыку яе дзеячоў і г.д. Каго гэта цікавіць, раім прачытаць перадусім два наступныя артыкулы: Анатоль Сідарэвіч "Экскурс у гісторыю"/часопіс "Неман" №9 за 1988г./, Уладзімер Калесьнік "Толькі праўда ці толькі догма?"/газэта "ЛіМ" ад 29 ліпеня 1988 г./. Мы падамо хіба некалькі характарыстык Беларускай сацыялістычнай грамады, якія даваліся ей у ленінскі пэрыяд нашае гісторыі і якія гэтак дбайна замоўчваюцца нашымі сеньняшнімі "гісторыкамі". Перадусім гэта словы У.І.Леніна, дзе ён называе БСГ у шэрагу "дробнабуржуазных нацыянальных партыяў леванародніцкага кірунку"/Полн. собр. соч., т.24, с.315/. Вартая увагі і характарыстыка Інстытута беларускае культуры /пазьней АН БССР/, які у 1927 годзе выдаў улёткі /лістоўкі/ ды праект праграмы БСГ асобнай брашурай і забясьпечыў іх камэнтарам: "Агульны кірунак БСГ дае нам магчымасьць лічыць яе нацыянальна-рэвалюцыйна-народніцкай дэмакратычнай партыяй". Асабліва сьмешнымі падаліся упартыя спробы тав. Малашкі інкрымінаваць нацыяналізм Беларускай сацыялістычнай грамадзе толькі з тае прычыны, што, маўляў, дзеячы грамады ня бачылі ў беларускай культуры наяўнасьць трох элемэнтаў /буржуазнага, дэмакратычнага і рэвалюцыйнага/, а лічылі яе аднароднай. Але ці мала чаго можа не заўважыць чалавек. Нацыяналізм жа - гэта вiдаць, найперш варожае стауленьне да іншых нацыяў. Дзеячам БСГ ніколі не былі уласцівыя ідэі нацыянальнае перавагі і нацыянальнае выключнасьці.

На заканчэньне хацелася б некалькі словаў дадаць пра "Технолог". Шэраг артыкулаў, замешчаных на яго старонках апошнім часам, прымушае нас задумацца" "А ці варта яго чытаць увогуле?.."

Ніжэй падаем плануемую тэматыку дыскусіяў клюба імя Францішка Скарыны:

I.Савецкія гісторыкі аб утварэньні БССР і КПБ -сьнежань
2.Паходжаньне беларускай нацыі -студзень
3.Беларуская мова - старажытная і сучасная -люты
4.Францыск Скарына і яго час -сакавік
5.Разьвіцьцё філасофска-культурнай думкі на Беларусі -красавік
6.Грамадска-палітычныя дзеячы Беларусі /партрэты/ -май



Склад рады клуба: Дзядзюля П.В., Матусевіч Я.В., Фіялкоўская І.А., Цмыг М.Г., Якуш Н.М.

# ШЧЫРА ДЗЯКУЕМ! ШЧЫРА ДЗЯКУЕМ!

Выказваем шчырую падзяку ўс1м ахвяравальн1кам, што адгукнул1ся на зьмешчаную ў м1нулым выпуску "Студэнцкая думк1" абвестку пра збор беларускае л1таратуры для Бельска-Падляскага л1цэя 1мя Бран1слава Тарашкев1ча, што на Беласточчыне /Польшча/.

АСАБЛ1ВА ДЗЯКУЕМ:

Ал1не Мясьн1ковай - студэнтцы Менскай мастацкай школк1 1мя Глебава;

Эдварду Выл1нскаму - студэнту БТ1;

Уладзю Навуменку - студэнту БТ1.

# В1НШУЕМ! В1НШУЕМ! В1НШУЕМ!

ШАНОЎНАЯ СПАДАРЫНЯ МАХНАЧ! ДАРАЖЭНЬКАЯ ПАН1 ВОЛЬГА!

Ад шчырага сэрца в1ншуем Вас з днем Вашых народз1наў! Зычым Вам моцнага здароўя, шчасьця ва ўласным жыцц1, посьпехаў ў грамадскай працы. Жадаем бачыць Вас й надалей актыўнай, разнастайнай ды прыгожай дзяўчынай.

СТО ГОД, ВОЛЬГА!

Адз1най мэты не зрачыся
1 сэрца хай не задрыжыць:
Як жыць - дык жыць для Беларус1.
А без яе - зус1м ня жыць!

Л.Г.

# АБВЕСТК1 : АБ'ЯВЫ * АБВЕСТК1 * АБ'ЯВЫ

Турыстычны клюб нашага 1нстытута шчыра запрашае ўс1х жадаючых браць чынны ўдзел у яго працы. У клюбе зарган1заваныя дзьве сэкцы1: альп1н1сцкая ды турысцкая. Усе разам мы адзначаем сьвяты, ходз1м у шматл1к1я вандроук1. Кожны жадаючы можа набыць у нашай сэкцы1 неабходныя веды 1 паехаць у турысцк1 альбо альп1н1сцк1 лягер на адпачынак. Адным словам, кал1 Вам нестае сапраўдных сяброў, кал1 Вы любіце сьпяваць бардаўск1я песьн1 ля вогн1шча, кал1 Вы н1кол1 ў жыцц1 не п1л1 гарбаты зь лясным водарам, дык барждзэй зав1тайце ў альптурсэкцыю Беларускага тэхналяг1чнага 1нстытута.

/Па просьбе сяброў альптурсэкцы1 БТ1/

Выдадзена коштам Анатоля Сыса